„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60



# Ніва



№ 27 (71) БЕЛАСТОК, 7 ЛІПЕНЯ 1957 г. ГОД II



*Малады Купала. Скульптура А. Быбкіна. (Музей Янкі Купалы ў Мінску).*

## З думкай аб Бацькаўшчыне

Зноў, дарагі чытач, мы сустракаемся з Табой у нашай экскурсіі па купалаўскіх месцах. На гэты раз у Маскве. Тут на Данскіх могілках, у крэматорыі, знаходзіцца прах нашага народнага песняра. Зойдзем-жа туды, ушануем яго памяць.

...Вялікая, прасторная зала. У цэнтры яе, сярод зяленіва і кветак узвышаецца помнік з белага мармуру. А ў нішы помніка — урна з прахам паэта.

Нельга без хвалявання чытаць урыўкі з вершаў, высечаных на мармуры:

*Песня мая не шукае чырвонцаў —*
*Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям;*
*Жыць толькі хоча ў радзімай старонцы,*
*Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.*

У гэтых словах увасоблены светлыя, шчырыя думкі і пачуцці паэта, вялікага патрыёта беларускай зямлі, яго самаахвярнасць дзеля роднага краю. З няменшай сілай і яскравасцю гучаць і другія словы Янкі Купалы:

*За праўду, за шчасце, за лепшую долю,*
*Вазьміся, мой дружа, пастой.*
*У крыўду не дайся, свайго дабівайся,*
*Адвага хай будзе з табой.*

Янка Купала цяжка і балюча перажываў расстане з Беларуссю, гаротны лёс свайго народу, які апынуўся ў нацысцкай няволі. Усе яго думкі і імкненні былі накіраваны на Захад, туды, дзе дыміўся ў пажарышчах Мінск, дзе злавесная ноч варожай акупацыі звісала над квітучым дагэтуль краем, дзе народ мужна ўзняўся на барацьбу супраць захопнікаў. Сцвярджэннем гэтаму з'яўляюцца яго словы на помніку:

*«Мне сняцца сны аб Беларусі»...*

І міма волі ў гэты час, калі мы стаім ля помніка народнага паэта, паўстаюць малюнкі даўнопрайшоўшых, грозных і суровых дзён.

...22 чэрвеня 1941 года. Нядзеля. На світанні мірны сон людзей быў раптоўна перапынены залпамі гармат і выбухамі бомб, якія сыпалі армады бамбардыроўшчыкаў на нашы гарады і сёлы. Нямецкія орды рынуліся на ўсход праз рубяжы.

Янка Купала ў гэты час знаходзіўся ў гасцях у літоўскіх пісьменнікаў у Каўнасе. У першы-ж дзень вайны ён выехаў у Мінск. Цяжкай была дарога дадому. Над родным горадам уздымаліся чорныя хмары дыму, ноччу на многія дзесяткі кіламетраў віднеліся крывавыя пошугі зарава. У агні загінуў і дом паэта, яго бібліятэка, рукапісы няскончаных твораў, перапіска.

24 чэрвеня Янка Купала выехаў на ўсход і спыніўся ў Ляўках на Аршаншчыне. Але нядоўга давялося прабыць і там. Варожыя арміі, знішчаючы на сваім шляху ўсё, набліжаліся да ўсходняй мяжы Беларусі і паэт вымушан быў пакінуць і Ляўкі.

Жонка паэта, Уладзіслава Францаўна ўспамінае: «Праязджалі мы адно прыгожае месца паблізу Смаленшчыны. Каля дарогі раскінуўся поплаў, трава была высокая, многа кветак, воддаль быў лес. Купала захацеў спыніцца тут. Стомлены, ён выйшаў з машыны, лёг на траву і доўга глядзеў удаль. На вачах у яго былі слёзы. Гэта было яго апошняе расставанне з роднай Беларуссю».

Прыбыўшы ў Маскву, Янка Купала пасяліўся на кватэры мастака К. Елісеева на Вялікай Грузінскай вуліцы. Тут ён быў не проста наглядальнікам падзей, а выступіў як воін, як змагар, які ўвесь свой талент, сваё паэтычнае слова паставіў на барацьбу з ворагам. Ужо ў першым сваім артыкуле «Германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа», які быў надрукаваны 18 ліпеня 1941 года ў газеце «Правда», Янка Купала заклікаў народ да змагання за свабоду. Ён і далей піша артыкулы, адозвы да партызан, якія распаўсюджваліся ў варожым тылу. Мужны голас паэта на мітынгах, па радыё і ў друку, заклікае народ да барацьбы, да помсты, да здабыцця перамогі. З адданасцю патрыёта Купала выступае ў жніўні 1941 года на трыбуне Усеславянскага мітынга. Як член Прэзідыума Усеславянскага камітэта ён заклікае народы славянскіх краін узняцца на смяротны бой з нацызмам. З-пад пяра Янкі Купалы выходзяць вершы «Шалее Гітлер ашалелы», «Беларускім партызанам» і іншыя.

Восенню 1941 года варожыя войскі падыйшлі да Масквы. Янка Купала змушаны пакінуць Маскву і выехаць у Татарыю, дзе пасяліўся ў Печышчах, непадалёку Казані, над Волгай. Тут ён таксама шмат і настойліва працуе, выступае 18 студзеня 1942 года на радыёмітынгу беларускага народа, на якім сказаў поўныя прароцтва і веры словы:

— «Блізкі час, калі мы зноў збярэмся ў шчасці і радасці, вялікай сваёй сям'ёй на роднай зямлі, для вялікай працы аднаўлення і творчасці».

У артыкуле «Не будзе беларус рабом нямецкіх баронаў», Янка Купала піша: «Народ мой! Ідзе смяротная бітва за самае галоўнае ў жыцці кожнага мужчыны, кожнай жанчыны, ідзе барацьба за жыццё, за свабоду, за існаванне беларускай нацыі».

Больш чым поўгода Янка Купала жыў і працаваў у Печышчах. Тут ён вельмі пасябраваў з мясцовым насельніцтвам, з простымі людзьмі, якія з вялікай пашанай адносіліся да беларускага песняра. Янка Купала пакінуў пасля сябе добрыя ўспаміны, як чалавек вялікай прыгожасці сваіх думак і дзеянняў, вялікага сэрца. Ён жыў з людзьмі аднымі думкамі і імкненнямі, дапамагаў ім усім, чым мог, людзі-ж плацілі яму пашанай і любоўю.

У чэрвені 1942 года паэт прыехаў у Маскву. Тут ён апынуўся ў асяроддзі беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў культуры, якія часта наведвалі яго, расказвалі аб сваіх працах, аб творчых планах на будучае. Разам марылі аб хуткім звароце на вызваленую беларускую зямлю, да свайго мужнага народу. Але Янку Купалу не давялося дажыць да гэтага радаснага і шчаснага дня. Раптоўная смерць абарвала жыццё паэта 28 чэрвеня 1942 года.

У той цяжкі час не ўсе маглі схіліцца над трунай дарагога песняра. Але як толькі вестка аб вялікай страце абляцела краіну — на фронтах, у совецкім тылу, на зямлі, захопленай ворагам, у партызанскіх атрадах, у жалобе застылі на момант людзі.

*Мой родны край, твае сыны*
*Не ўсе маглі ў той час суровы*
*Каля паэтавай труны*
*Стаяць у варце ганаровай.*
*Дарогі так ляглі ў жыцці,*
*Што пад разрывамі снарадаў*
*Усе не здолелі прыйсці*
*З-пад Севастопаля*
*І Ленінграда.*

пісаў у вершы, прысвечаным памяці песняра паэт Мікола Аўрамчык. Беларускія воіны, дзеячы навукі і культуры, пісьменнікі і партызаны далі ў той час клятву:

«Над прахам тваім, дарагі наш Янка Купала, мы клянемся зрабіць усё, каб вызваліць нашу маці-Беларусь ад ненавісных катаў».

Янка Купала не дажыў да светлага дня перамогі над ворагам. Але ён непахісна верыў у гэта, як верыў у мужнасць і няздомнасць беларускага народа, у яго волю да змагання. У адным з артыкулаў паэт пісаў: «Любяць у Беларусі званых гасцей і не любяць нязваных. Пакуль будзе жыць хоць адзін беларус, не будзе на беларускай зямлі спакою фашыстам — захопнікам, горкае будзе ім жыццё — з кожнага дрэва, з кожнага лога будуць сачыць за імі пільныя партызанскія вочы... Няхай не гневаюцца няпрошаныя госці. Чым багаты, тым і рады. Для добрага чалавека — вароты насцеж, хлеб і гарэлку на стол. Для начнога ворага, для злодзея — смерць і агонь».

У гэтыя дні, калі ўвесь беларускі народ шырока адзначае 75-я ўгодкі з дня нарадзінаў свайго песняра, вобраз Янкі Купалы паўстае найвыразней і яскравей, як вобраз вялікага патрыёта беларускай зямлі, слаўнага сына Беларускага народу, які сэрца, думкі і імкненні, свой паэтычны талент да апошняй хвіліны аддаваў дабру і шчасцю людзей, славе і велічы Бацькаўшчыны.

АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ
Масква



*Помнік Янку Купалу ў Маскве. У нішы яго знаходзіцца урна з прахам паэта.*
*Фота — А. Траяноўскі*

ШТОТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

З пабыўкі дэлегацыі БССР

# Незабыўныя госці

Дзё-б толькі не паявіліся нашы дарагія госці — усюды акружала іх моладзь і старэйшыя, беларусы і палякі. Палякі ведаюць у нас беларускую мову, а «Цёця Уладзя» — добра ведае польскую.

Апрача гэтага усіх злучала адна вялікая дружба і любоў да вялікага паэты і брацкага суседняга народа.

*

У перапоўненай «па самыя берагі» зале Павятовага Камітэта ПЗПР у Бельску - Палляскім, як зрэшты і ва ўсіх мясцовасцях, дзе нашы госці пабывалі, людзі прасілі Уладзіславу Францаўну, расказаць пра вялікага паэта. Яна расказвала, пра горкую, цяжкую долю



*У Бельску «Цёця Уладзя» расказвае пра Янку Купалу.*



*Госці вельмі цікавіліся жыццём кааператыўшчыкаў.*

яго маладосці. Хвалявала гэта ўсіх прысутных, а і сама «Цёця Уладзя» не раз украдкам абцёрла слязіну, успамінаючы вернага друга свайго жыцця...

Цяжка было расставацца ў Бельску, але што-ж, калі гасцей чакалі яшчэ кааператыўшчыкі ў Дэнісках.

А там ізноў натоўп людзей, якія прыбылі з навакольных вёсак.

Госці вельмі цікавіліся жыццём кааператыўшчыкаў у Польшчы, якія не адсталі ад соцыялістычнага напрамку і супольна будуюць лепшую будучыню.

Малая хатка вясковага клуба не магла памесціць усіх тых, якія хацелі з гасцьмі сустрэцца.

Не маглі з імі нагутарыцца, не маглі нацешыцца. Кожны меў штосьці ім сказаць, нешта запытаць.

Калі мы ад'язджалі — кааператыўшчыкі абступілі машыну і проста не хацелі пусціць. Яшчэ ў машыне трэба было з кожным развітацца, з кожным яшчэ крыху пагутарыць.

*

Ну што-ж, трэба даць гасцям крыху, сапраўды, адпачыць.

Дзе-ж гэта можна найлепш адпачыць, як не на прасторах Аўгустоўскіх азёр. Потым маторная лодка прыплыла да берагу. Усе вышлі на



*Юныя гледачы ў Гарадку на пастаноўцы п'есы «Паўлінка».*

ўзлессе слаўнай, вяковай, Аўгустоўскай пушчы, каб спажыць абед, пашпацыраваць сярод цяністых, прахладных дрэў, параскашавацца спелымі суніцамі, якіх была там нязлічаная колькасць.

Не адбылося і без прыгоды. На палове дарогі пачаў падаць дождж і пакуль даплылі да Турыстычнага Дома — нават крыху памоклі.

*

У апошнім дню госці пабывалі ў Гарадку.

Мясцовы калектыў мастацкай самадзейнасці даў адзін акт пастаноўкі, па п'есе Я. Купалы «Паўлінка», пасля чагс госці выйшлі на сцэну асабіста падзякаваць артыстам за добрую пастаноўку.

Пры бурлівых апладысментах «Цёця Уладзя» пацалавала Ніну Цыванюк — «Паўлінку» у п'есе. Зрэшты «Паўлінка» падабалася не толькі нашым гасцям, але і ўсім, асабліва юным гледачам. (глядзі фота!).

Не ведаю аб чым гутарылі жанчыны з «Цёцяй Уладзяй», а школьнікі з Міколай Гаўрылавічам і Вячэславам Іванавічам — цяжка было мне там даступіцца. Ізноў: — Незабывайце — прыязджайце! Ізноў цяжка развітацца з мілымі сябрамі, якія пакінулі ў нас незабыўнае ўражанне.

Думаем, што гэта не апошняя сустрэча. Праўленне ТПП-Р і ГП БГ-КТ будуць старацца, каб іх было як найбольш. Насельніцтва Польшчы, а ў прыватнасці Беласточчыны, вельмі хацела-б пабачыць хор Шырмы ці другія калектывы БССР.

І. Р.



*Дзе ж можна лепей адпачыць, як не на прасторах Аўгустоўскіх азёр.* *Фото — Рыбінскі*

# Насельніцтва Беларусі

## (статыстычная даведка)

Па колькасці насельніцтва Беларуская ССР з'яўляецца адной з буйнейшых рэспублік Савецкага Саюза. Да вайны, у 1940 годзе насельніцтва Беларусі складала 9,2 млн. чалавек.

Другая сусветная вайна прынясла вялікія разбурэнні ў Беларусі. Паводле даных Надзвычайнай камісіі па даследаванні злачынстваў гітлераўскіх захопнікаў Беларуская ССР страціла за гады вайны (1941 — 44) каля 15 прац. усяго свайго насельніцтва, што складае каля 1,4 млн. чалавек. Было знішчана блізка 1 мільён жыдоўскага насельніцтва, каля 300 тысяч грамадзян рэспублікі вывезена на работы ў Нямеччыну. Непасрэдна пасля заканчэння вайны ў 1945—47 г. г. з Беларусі выехала ў Польшчу каля 300 тысяч палякаў, а з Польшчы (з Беласточчыны) ў той самы час выехала каля 15 тысяч беларусаў.

Беларуская ССР займае па колькасці насельніцтва чацвёртае месца сярод совецкіх рэспублік пасля РСФСР, Украінскай ССР і Казахскай ССР (перад вайной — трэцяе). 18 краін Еўропы — у тым ліку Аўстрыя, Швецыя, Нарвегія, Фінляндыя — маюць меншую колькасць насельніцтва чым Беларусь.

Асноўная частка насельніцтва Беларускай ССР — беларусы, якія складаюць каля 80 прац. усяго насельніцтва рэспублікі. З іншых нацыянальнасцей пражываючых на тэрыторыі Беларусі — гэта рускія, а таксама украінцы, палякі і іншыя.

У выніку змяншэння колькасці насельніцтва шчыльнасць насельніцтва Беларусі, якая перад вайной складала 45 чалавек на кв. км., сёння зменшылася да 39 чалавек на кв. км. У 1956 годзе насельніцтва Беларускай ССР складала толькі 8 млн. чалавек г. зн. на 13 прац. менш чым перад вайной. Для параўнання трэба дадаць, што шчыльнасць насельніцтва Украіны складае 68 чалавек, Літвы — 42, Латвіі — 31 і Польшчы — 88 чалавек на кв. км. Пры гэтым шчыльнасць насельніцтва Беластоцкага ваяводства — мяжуючага з Беларускай ССР перавышае 45 чалавек.

У выніку індустрыялізацыі Беларускай ССР яшчэ ў даваенныя гады хутка расло насельніцтва беларускіх гарадоў, якое да 1940 г. павялічылася да 25 прац. насельніцтва рэспублікі. З другога боку ў выніку эканамічнага заняпаду Заходняй Беларусі гарадское насельніцтва расло вельмі слаба і складала перад вайной каля 15 прац. усяго насельніцтва гэтай часткі краіны.

Рух насельніцтва найвялікшых гарадоў Беларусі характарызуюць наступныя даныя:

Насельніцтва гарадоў Беларусі (у тыс. чалавек)

| | 1910 | 1920 | 1930 | 1940 | 1956 |
|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 105 | 104 | 153 | 239 | 412 |
| Віцебск | 103 | 87 | 108 | 167 | 128 |
| Гомель | 94 | 61 | 107 | 144 | 144 |
| Магілёў | 50 | ... | ... | 100 | 106 |
| Гродна | 50 | 35 | 50 | ... | + |
| Брэст | 53 | 30 | 51 | ... | + |

*+ Насельніцтва Гродна і Брэста ў 1956 г. складала звыш 50 тыс. чалавек.*

Асабліва вялікія спусташэнні прынясла апошняя вайна беларускім гарадам. Афіцыяльныя совецкія даныя гавораць, што за час апошняй вайны было знішчана 74 прац. усёй жыллёвай плошчы у гарадах і раённых цэнтрах Беларусі. Мінск быў разбураны ў 80 прац., Віцебск — 90 прац., Гомель — 80 прац. а Полацк — у 96 прац.

За пасляваенныя гады зроблена вялікая работа па адбудове зруйнаваных беларускіх гарадоў. Асабліва хутка развіваецца сталіца Беларусі — Мінск, які сёння налічвае амаль два разы больш жыхароў чым перад вайной. Насельніцтва Гомеля, Магілёва, Гродна і Брэста таксама некалькі перавысіла даваенны ўзровень. Аднак Віцебск — найвялікшы прамысловы цэнтр поўночнай Беларусі да сённешняга дня не здолеў залечыць ваенных ран.

Ю. ТУРОНАК

ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

# Каларадскі жук — вялікі шкоднік бульбы

Каларадскі жук (стонка земнячана) з'яўляецца вялікім шкоднікам бульбы.

У Польшчу каларадскі жук дастаўся з Нямеччыны. Апрача Нямеччыны выступае ён на вялікіх абшарах у Францыі, Швейцарыі і прычыняе шкоды пры вырошчванні бульбы.

Аблічаныя страты ў плёне бульбы ў Заходняй Еўропе і ў Поўночнай Амерыцы даходзяць да 30 — 50 прац. Пры знішчанні гэтага шкодніка апырскваючы, або апыльваючы бульбу хімічным рэчывам зможам зніжыць страты да 3—8 прац.

Дарослы каларад з'яўляецца хрушчом, даўжыня якога даходзіць да 9 — 11 міліметраў, шырыня — амаль такая самая. Колер каларада — жоўты, або лёгка карычневы, уздоўж цела вілаць 10 падоўжных плямак. Некалькі бясформенных чорных плям знаходзіцца таксама на галаве каларадскага жука. Сподняя частка цела каларада — жоўтая.

Жук зімаваўшы ў глебе, выходзіць на паверхню тады, як ралля дасягне тэмпературы 10°С. Пасля нападае на лісце, на якіх прабывае праз 12 дзён. Па 12 днях на споднім баку лісцяў, складае па 30 — 40 штук яек адразу. Агульна адзін жук можа злажыць каля 1.800 штук яек. Яйкі маюць авальны кшталт, даўжыня — каля поўтара міліметра, жоўтага колеру з карычневым адценкам. Праз некалькі дзён з яек выходзяць лічынкі (лярвы) у залежнасці ад тэмпературы. Саміца стонкі можа складаць яйка цэлае лета.

Самка не любіць нізкай тэмпературы і ўжо ніжэй 15°С складае мала яек. Лічынкі стонкі тры разы лінеюць і пасля 16—21 дзён хаваюцца ў глебу на глыбокасць 20 сантыметраў і замяняюцца ў «пачваркі». Па 11 днях выходзяць хрушчы.

У адпаведных умовах жук выдае другое пакаленне, больш шкоднае, якое пераносіцца на многа кілометраў. Асенняе пакаленне ўваходзіць у глебу на глыбіню 70 сантыметраў і там зімуе ў форме «пачваркі» якая вясною пераўтвараецца ў хрушча.

Каларадскага жука на даным палетку пазнаем па знішчэнню лісцяў.

Пошукі жука праводзіцца ў раёне да 5 кілометраў ад месца, дзе яго знойдзена; некалькі разоў — што тры тыдні. Дзе паявілася стонка — там трэба скасіць бульбянік, накрыць яго саломай, абліць хімічным прэпаратам, (які атрымоўваем ад дзяржавы бясплатна), і выпаліць месца. Потым на адлегласці 5 кілометраў навокал поле, трэба апырскаць 0,4 працэнтным «арсэнянам вапны» або апыліць «Гесаролем» або «Азотаксам».

Можам таксама правесці дэзінфекцыю глебы. Трэба пакапаць рыдлёўкай невялікія ямкі і ўліць у іх «двухлараэтан».

Кожны селянін павінен шукаць гэтага шкодніка, — а калі знойдзецца — знішчаць як найхутчэй.

інж. ВІТАЛІ МІРОН.

